Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 2.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 17 (105) | Вільня, 29-га лістапада 1936 г. | Год 4-ты.

## Патрыятызм дае сілу народу.

Кожны нацыянальны рух— гэта коордынацыя творчых сілаў народу. Каб быць карысным у гэтым руху, быць творчаю сілаю, трэба перадусім адчуваць у сабе моцна сваё нацыянальнае „Я“. Моцнае нацыянальнае пачуцьцё выклікае ў паасобных адзінкак, а нават і ў цэлых народаў тое, што завецца патрыятызмам. Патрыётам будзе той, хто сваёю істотаю зьліваецца з сваёй нацыяй, хто для дабра свайго краю гатоў на найвялікшыя ахвяры.

Часта з патрыятызмам індэнфікуецца шовінізм, які фактычна зьяўляецца нэгацыяй патрыятызму і прыкметаю слабой культурнасьці, бо ён заўсёды экстэрмінацыйны і варожы да ўсіх іншых народаў. Шовінізм мае ў сваёй аснове вельмі сільны нацыянальны эгоізм і таму кожны шовініст адносіцца варожа да іншых нацыяў і на нішто не аглядаючыся выкарыстоўвае іх выключна для сваіх собскіх мэтаў.

Трэцяй популярнай сяньня формай перабудовы жыцьця чалавецтва зьяўляецца інтэрнацыяналізм, які бальшавікі падмянілі космопэлітызмам, каторы, як ведама, імкнецца да поўнага зьнішчэньня ўсялякага нацыянальнага аблічча кожнага народу.

Служыць для дабра ўсяго чалавецтва зьяўляецца бязумоўна ідэяй пекнай і каб на сьвеце ўсе людзі былі між сабой роўнымі, дык можа ідэя гэтая і перамагла-б. Але запраўднасьць прадстаўляецца зусім іначай. Пакуль што роўнасьці няма і ня ведама ці нагул яна будзе. Есьць людзі слабейшыя і сільнейшыя,ёсьць людзі цёмныя, малакультурныя і людзі з высокай культураю. Зраўняць іх амаль немагчыма, бо чалавек ёсьць толькі чалавекам з рознымі прыроднымі недастаткамі.

Прарокі гэтай псэўдо-інтэрнацыяналістычнай ідэі вяжуць яе заўсёды з ідэяй соцыяльнай роўнасьці. Гэткім чынам лягчэй удаецца прабіцца ім у шырокія масы, якія дзякуючы сусьветнаму крызысу знаходзяцца ў дрэнным матэрыяльным палажэньні. Але як бачым на прыкладзе нашага ўсходняга суседу, прарочыць соцыяльную роўнасьць куды лягчэй, чым праводзіць яе ў жыцьцё. Праўда, прарокі і блізкае да іх акружэньне для сябе самых можа і асягнулі „соцыяльную роўнасьць“. Ім жывецца аднолькава добра. Коштам сялян і работнікаў даступны ім сяньня ўсе люксусы сучаснага жыцьця. І каб надалей захаваць для сябе гэную „соцыяльную роўнасьць“ імкнуцца яны накінуць яе цэламу сьвету. Выкідаюць вялізарныя грошы, робяць хатнія братазабойчыя войны — ўсё дзеля таго, каб захаваць для сябе вельмі выгадную „роўнасьць“. Не абмінаюць яны і нас. Іхнія агітатары падбухторваюць нашых сялян і работнікаў і ў імя ўтопійнай камуністычнай ідэі, для сваіх собскіх інтарэсаў, заганяюць іх у вастрогі і концэнтрацыйныя лягеры.

Абы для іх было добра! І гэта мае быць ідэя служэньня чалавецтву?

Малады беларускі адраджэнскі рух вымагае патрыятызму, вымагае ад паасобных адзінак ахвярнасьці і аддадзенасьці свайму народу. Нас ня мала ўжо навучылі, каб мы і далей маглі прыслухоўвацца да розных баек аб нейкай нідзе няіснуючай „соцыяльнай роўнасьці“. Мы верылі і згубілі толькі шмат якіх цэнных для нас сілаў. Усе гэтыя людзі, якія сяньня знаходзяцца ў Салоўках ці ў ссылцы, а не адзін з іх расстрэляны, маглі-б шмат што зрабіць для свайго народу.

Дык замест памагаць добра жыць іншым і садзіцца за гэта ў вастрогі, лепш займемся здабываньнем асьветы і палепшаньнем свайго эканамічнага быту.

Мы самі шмат у чым вінаваты, а трэба памятаць, што сьвет лічыцца толькі з народам моцным.

Праўда і тое, што ўсё гэта лёгка сказаць, але не так лёгка зрабіць.

Аднак трэба памятаць, што вялікія вартасьці творацца не днямі, а гадамі і таму валізарныя на першы пагляд труднасьці не павінны паралізаваць нашыя намеры. Трэба толькі здабыцца на шчырую любоў да свайго народу і свайго краю, а коордынацыя ўсіх народных творчых сілаў наступіць сама па сабе, сказаў-бы, нават няпрыкметна пераможа ўсе перашкоды.

Як павясьці працу над падняцьцем эканамічнага роўня жыцьця напішым у наступных нумарох, а пакуль што зьмяшчаем на іншым месцы артыкул аб пашырэньні граматнасьці і веды.

*Б—ч.*

## Змаганьне з нясграматнасьцяй.

Царскі расейскі ўрад, як ведама, лічыў, што дзеля супакойнага і як найдаўжэйшага панаваньня неабходна трымаць шырокія масы сваіх падданых у поўнай цемнаце. Вось чаму ў галіне асьветы царская Расея аставалася далёка з-заду за ўсімі культурнымі краінамі ня толькі Эўропы, але і ўсяго сьвету, маючы ў сябе звыш двух трацін жыхарства няграматнага.

Наколькі царскі ўрад мыляўся, будуючы сваё панаваньне на цемнаце падданых, гэта найлепш паказала расейская рэвалюцыя, якая адным махам збурыла царскі трон і давяла да крайняга радыкалізму формы ўсяго жыцьця, што было магчыма, толькі з-за адсутнасьці належнай асьветы народных гушчаў б. Расеі.

Беларускія народныя гушчы, ўваходзячы ў склад даўнейшае Расеі, былі ня ў лепшым, але яшчэ ў горшым палажэньні, чымся расейскія народныя гушчы, бо-ж на нашыя землі царскі ўрад глядзеў, як на небясьпечныя з боку сэпарастычных (аддзяляючыхся) імкненьняў, і таму нашыя землі былі яшчэ больш закінены, асьвета, ці правільней граматнасьць былі тут яшчэ меншыя.

Вось гэтым і тлумачыцца тое сумнае зьявішча, якое дагэтуль наглядаецца ў нашых вёсках, дзе сярод старэйшага жыхарства такі вялікі працэнт няграматных мужчын і яшчэ больш працэнт няграматных жанчын, асабліва ў тых вёсках, якія знаходзіліся далей ад даўнейшых пачатковых школ, якіх было ўсяго па тры—чатыры на цэлую валасьць. Вялікую ролю ў адсутнасьці шырэйшай асьветы ў нашых вёсках адыгрываў і той факт, што ўсе бяз вынятку школы на нашых землях былі расейскімі, чужыя нашаму народу як па мове, так і па духу.

Таксама і сусьветная вайна шмат пашкодзіла пашырэньню асьветы сярод нашых народных гушчаў, бо-ж даўжэйшы час ваенныя баі адбываліся на нашых землях, вялікая колькасьць нашага жыхарства была змушана пакінуць свае хаты і сялібы ды туляцца на чужых землях, дзе прыходзілася думаць у першую чаргу аб тым, каб як-небудзь пературываць, прахарчавацца, каб ня згінуць з голаду, а ўсё гэта клопаты аб асьвеце адсоўвала на далейшы плян.

Ня менш, а пэўне яшчэ больш цяжкім быў мамэнт вяртаньня няшчасных нашых бежанцаў дамоў, на свае сялібы вельмі часта зусім зьнішчаныя, на свае нівы, заросшыя травой ды маладым бярэзьнікам. І тут прыходзілася думаць аб сякой-такой ежы ды адзежы і, здавалася-б, ня было часу і магчымасьці думаць аб належным вучэньні дзяцей...

Тым больш зьяўляецца дзіўным і проста захопліваючым тое імкненьне да асьветы, якое выявілася сярод нашага сялянства ды мяшчанства ў першыя гады пасьля вайны. Саматугам паўстаюць з дзесятак сярэдніх ды сотні пачаткавых беларускіх школ, якія перапоўнены імкнучаюся да асьветы беларускай моладзяй.

Адбудаваная нанова маладая Польская Дзяржава зусім інакш, чымся даўнейшая царская Расея, аднеслася да асьветы народных гушчаў, слушна лічачы неабходным дзеля трывалкасьці Дзяржавы змаганьне з дасюлешняй цемнатой народных гушчаў, дзеля чаго было ўведзена агульнае абавязкавае навучаньне ўсіх дзяцей ад 7-х да 14-х гадоў.

Праўда, з прычыны недахопу матэр'яльных срэдстваў гэнае правіла не магло адразу зрэалізавацца і праводзілася ў жыцьцё пастунова, дзеля чаго пэўная частка моладзі аставалася бяз школы, а такой моладзі было нямала на нашых землях, у нашых вёсках, чым тлумачыцца той факт, што і сярод малодшага нашага жыхарства ёсьць няграматныя, якія ня былі ў школе.

Акром таго маладая польская школа не магла адразу стаць на належнай вышыні, на нашых-жа землях яна была новай, часамі далёка стаячай ад жыцьця і таму ня дзіва, што пэўная частка моладзі пасьля некалькіх гадоў навукі забывалася тое, чаго вучылася ў школах і, можна сказаць, ізноў варочалася да няграматнасьці, вельмі часта ня могучы нават расьпісацца. Такія факты, прыкладам, здараюцца пры прызыве навабранцаў, якія хоць і прабылі ў школе некалькі год, аднак свайго прозьвішча напісаць ня могуць, што ня раз сьцьверджана адпаведнымі ўрадовымі дзейнікамі.

Такім чынам з розных прычын сярод нашага жыхарства і дасюль ёсьць пэўная частка няграматных мужчын і жанчын, якія складаюць каля трацiны ўсяго жыхарства.

Хіба нікому ня трэба дадаваць, бо кожны гэта разумее, якое вялікае значэньне ў сучасным жыцьці мае хоць-бы простая граматнасьць,ці інакш кажучы ўменьне чытаць ды пісаць. Такая граматнасьць патрэбна і ў дамашнім жыцьці, на гаспадарцы, асабліва-ж яна неабходна для ўсіх тых, хто мусіць адлучацца ад дому, хто трапляе ў чужую старану, або, прыкладам, для тых, хто ідзе ў салдаты, для якіх зносіны са сваімі могуць быць толькі цераз пісьмы, дзеля чаго ў першую чаргу трэба ўмець чытаць і пісаць. А і само сяньняшняе жыцьцё вымагае на кожным шагу і амаль ад кожнага чалавека ўменьня чытаць і пісаць.

нікі, эканомікі і вайсковае штукі „імпэрыялізм“ шмат дужэйшы за СССР. Калі ён ня будзе спаралізаваны новаю рэвалюцыяй, дык ён зьмяце лад, зроджаны кастрычніцкаю рэвалюцыяй. Яшчэ дакладней: калі не адбудзецца новая „троцкістаўская“ рэвалюцыя, дык соцыяльная база СССР разваліцца, як у выпадку вайны, так і ў выпадку паражэньня. Троцкі піша, што Варашылаў вельмі нездаволены якасьцю прадукцыі савецкае цяжкое прамысловасьці, якая робіцца для патрэбаў чырвонае арміі... Самі савецкія газэты ня ўтойваюць таго, што з сотні савецкіх самаходаў, каторыя ў будучай „змоторызованай“ вайне маюць граць вялізарную ролю, 45 зусім бяздзейнічаюць, а 55 ледзь пакрываюць 21.000 кілёмэтраў, у той час, як у заходня-эўрапэйскіх краінах гэткія самаходы „старэюць“ толькі тады, калі пакрыюць 60.000 або і 100.000 кілёмэтраў. Вялікую ролю ў будучай вайне будуць іграць і шляхі камунікацыі. У гэтым сэнсе палажэньне СССР можа быць названа катастрофічным. Нават у цэнтры краіны, напр., на шасе Масква-Ярасłаўль найбольшая скорасьць самаходаў не павінна перавышаць... 10-ёх кілёмэтраў у гадзіну. Чугункі ў Саветах таксама ў страшэнным стане. Марскі транспорт качае. Малая вытворчасьць працы дае малы прыбытак дзяржаве і адсюль выплывае галіта. Дзяржаве пагражае банкруцтва...

## 8 НадзвычайныЗьезд Саветаў.

Паводле паведамленьняў, атрыманых з савецкай Расеі, 25 лістапада г.г. а 17 гадзіне у Вялікім Крэмлеўскім Палацы пачаліся абрады 8 надзвычайнага зьезду Саветаў.

Зьезд адчыніў старшыняВЦІК‘а М. Калінін, які зрабіў гістарычны агляд савецкай канстытуцыі, называючы новую канстытуцыю сталінскай.

Пазьней прамаўляў Сталін, які перадусім абрысаваў рэзультаты, асягненыя ўва ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага жыцьця. Прамоўца падчыркнуў, што гэтыя рэзультаты зьявіліся асноваю для новай канстытуцыі, якая ня мае дэкляратыўнага характару, а як-бы рэгіструе стварыйшаеся палажэньне. Далей Сталін параўняў новую савецкую канстытуцыю з канстытуцыямі заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў, адказаў на крытыку эўрапэйскае прэсы і перайшоў да абгаворваньня палітычнай свабоды. Са слоў прамоўцы вынікае, што *дыктатура кампартыі астаецца* і надалей. *Пры савецкіх умовах* — казаў Сталін — *няма месца для многапартыйнай сыстэмы і што можа існаваць толькі адна камуністычная партыя*, якая рэпрэзэнтуе інтарэсы рабочых і сялян — дзьвюх грамадзкіх клясаў, фактычна існуючых у савецкім Саюзе.

Пераходзячы да разгляду ўнесеных паправак да адносных артыкулаў канстытуцыі, Сталін выявіў наступныя „пажаданьні“: 1) Кожная саюзная рэспубліка, якой насельніцтва асягае мільёну чалавек і якая мае сваю нацыянальную большасьць, павінна мець права выступіць з Саюзу. 2) Для палепшаньня справы абароны савецкага Саюзу стварыць агульнасаюзны народны камісар‘ят-наркамат абароннай прамысловасьці. 3) Свабода рэлігійных абрадаў. 4) Вярнуць „былым людзям — эксплётатарскім элемэнтам“ вібіральныя правы.

Як гэтыя сталінаўскія „пажаданьні“ выглядаюць у сапраўднасьці, дзеля недахопу месца напішам у наступным нумары.

## Новы этап дзяржаўнае палітыкі ў справе краёвага валакна.

Прадукцыя краёвага валакна (лён, канапель) ужо ад даўжэйшага часу ёсьць прадметам апекі пэўных дзяржаўных органаў. Вырошчваньне валакністае расьліны, яе дагляд і аддзяленьне ад яе валакна паглынаюць шмат працы, але яна даволі добра аплачваецца выгатоўленым прадуктам. Апрача таго, валакно зьяўляецца выгадным экспартовым прадуктам. Аднак падняць прадукцыю гэтага карыснага артыкулу, знайсьці для яго збыт—справа ня такая ўжо лёгкая, асабліва пры ўмовах цяперашняга гаспадарчага крызысу. Ня гледзячы на гэта ў справе збыту шмат што ўжо зроблена. Вясковы лянны выраб дзякуючы адпаведнай прапагандзе знайшоў сабе шырэйшы збыт унутры краю, для пашырэньня-ж збыту самога валакна заграніцай дзяржаўны скарб ужо даволі даўно выплачвае вывазныя прэміі. Ня лішнім будзе тут сказаць, што заданьнем пэўных дзяржаўных органаў пры гэтым было ня толькі падтрымоўваць самы заграрічны вываз, але яшчэ тое, каб заграніцу вывозілася як найболей добра апрацаванага валакна і як найменей суровага. Дасягалася гэта тым, што за добра апрацаваны тавар плаціліся значна вышэйшыя прэміі, чым за тавар горш апрацаваны. У гэтай палітыцы мелася на мэце знайсьці перш за усё для свайго работніка больш працы, а падругое дабіцца большага прыліву заграцічнае валюты. Аднак гэты спосаб далёка не заўсёды асягаў сваю мэту. Часта купцы-экспартэры рабілі на гэтым грунце вялікія злоўжываньні. Нярэдка ўдавалася ім пасылаць заграніцу быццам часаны лён, які ў запраўднасьці быў прапушчаны толькі адзін раз праз шпіцоўнік (фактычна лён суровы), і атрымліваць за яго высокія прэміі.

Сёлета, як відаць, адпаведныя дзяржаўныя дзейнікі пастанавілі скончыць з гэткімі надужыцьцямі. На апошнім сваім паседжаньні Эканамічны Камітэт Міністраў пастанавіў, што вывазныя прэміі маюць быць выплачваны толькі пры вывазе высока вартаснага тавару, які будзе адказваць нормам Стандарызацыйнае Камісыі. Апрача таго, Камітэт Міністраў на тым самым паседжаньні вынес і іншыя важныя пастановы адносна краёвага валакна. Пастаноўлена з аднаго боку абмежыць да пэўнае меры ўвоз заграрічных сырцоў, а з другога — зараз-жа прыступіць да шырэйшага застасаваньня краёвага валакна ў сябе дома. Сёлетнімі пастановамі аказаўся абмежаны ўвоз пакуль што трох заграрічных сырцоў: сісалю, манільлі і і фібры. Усе гэтыя сырцы будуць увозіцца толькі ў такой меры, у якой іх ужо ніяк нельга заступіць сырцамі краёвага паходжаньня. Пастаноўлена таксама абмежыць у меру магчымасьці кантыгэнты на ўвоз лёну, вяровак і т. пад., якія могуць быць увезены на аснове ўжо існуючых умоваў.

Усе вышэй прыведзеныя пастановы Эканамічнага Камітэту Міністраў бязумоўна зробяць вялікі ўплыў як на падняцьце прадукцыі валакна, так і на палепшаньне яго якасьці. Але гэтыя меры патрабуюць адных толькі распараджэньняў, якія могуць быць лёгка адменены. Затое зусім іншы характар маюць далейшыя пастановы, якія выклікаюць вялікія задавальненьні і надзеі. Аказваецца, што на тым-жа самым паседжаньні Эк. Камітэт Міністраў даручыў апрацаваць праэкт, мэтаю якога было-б узмацненьне працаў над котонізацыяй краёвага валакна. Тут ужо гутарка ідзе аб разьвіцьці фабрычнага ляннога промыслу. Краёвае валакно дзякуючы котонізацыі, атрымае такія якасьці, якія пазволяць гэтае валакно прасьці на тых самых машынах, на якіх прадзецца бавоўна і юта, а знача і з нашага валакна можна будзе атрымаць прадукт, які мала чым будзе адрозьнівацца ад прадукту баваўнянага. Далей апошняя пастанова кажа, што мае быць яшчэ апрацаваны далейшы праэкт, які меў-бы на мэце рацыянальнае ўрухамленьне і разьвіцьцё котонізацыйнага промыслу ў тых частках Дзяржавы, дзе найболей прадукуецца валакна, асабліва на т. зв. Усходніх Крэсах. Праэкт гэты мае быць зрэалізаваны шляхам канцэсыяваньня вышэй успомненага промыслу. Апрача таго ў пастановах прапануецца падтрымоўваць далейшыя працы над палепшаньнем котонізацыйных мэтадаў, а таксама для прыстасаваньня іх да вымогаў фабрычнага промыслу.

Нарэшце Эканамічны Камітэт Міністраў прапануе пры заключэньні новых гандлёвых умоваў зрабіць усе стараньні, каб экспарт лянных вырабаў як мага пашырыць і каб яму была аказана экспартовая помач. *N*.

## Ці апошняя звыжка цэнаў на збожжа можа задаволіць земляроба?

У месяцы кастрычніку сёлетняга году ў гаспадарчым жыцьці Польшчы сталася вялікае здарэньне: цэны на збожжа гвалтоўна пачалі падымацца. Сытуацыя на збажовых рынках заграніцай і ў краі зьмянілася на карысьць земляроба. Толькі нажаль рост цэнаў на земляробскія прадукты трываў у нас ня доўга. Хутка ён спыніўся і наступіў нават некаторы спадак. Сяньня астаецца толькі сьцьвердзіць, што цэны на збожжа ізноў больш-менш устабілізаваліся і, трэба сказаць, далёка не на такой вышыні, якая-б магла забясьпечыць рэнтоўнасьць земляробскае працы. Калі мы параўняем сёлетнія цэны на збожжа ў месяцы кастрычніку з цэнамі леташнімі ў тым-жа самым месяцы, дык акажацца, што сёлета цэны падняліся, але ня так ужо высака.

Найлепей можна зор‘ентавацца ў росьце цэнаў на збожжа, калі параўняем леташнія і сёлетнія цэны з цэнамі 1928 году, бо гэты год фактычна быў апошнім перад крызысам. Калі цэны 1928

# У дні Слуцкага Паўстаньня.

Шаснаццаць гадоў назад, ня помню ў які дзень лістапада 1920 году, служачы афіцэрам у Беларускай Вайсковай Камісіі ў... Лодзі, атрымаў я весткі аб падрыхтоўцы Слуцкага Паўстаньня...

Пра гэтае паўстаньне, пра адзіны выпадак героічнае, так ці іначай арганізованае, барацьбы Беларускага Народу з бальшавікамі, вельмі мала апублікована вестак. Параскіданыя невядома дзе, актыўныя беларускія барацьбіты недалёкага, пакуль што, мінулага. Некаторых напэўна і няма ўжо зусім на гэтым сьвеце. А варта было-б асьвятліць усебакова бяспрыкладны парыў беларускага геройства ў мамэнт, калі пачынаўся новы, кашмарны, можна сказаць, пэрыяд гісторыі нашага народу.

Хочацца верыць, што некалі знайдуцца ў нас людзі, якія глыбей займуцца ўсёю гісторыяй Слуцкага паўстаньня, што сабранымі будуць у адну цэласьць усе дадзеныя аб ім, што людзі, актыўна вёўшыя гэтую беларускую збройную акцыю, запішуць хоць свае ўспаміны, перахаваюць тыя ці іншыя дакумэнты з часоў паўстаньня, каб магчыма шырэй даведацца мог наш народ, як, у лістападзе 1920 году, адзін Слуцкі павет даваў сілаю адпор навале бальшавіцкага імпэрыялізму.

Бо случакі—гэта жменя Беларускага Народу, гэта Яго сыныгерої, рваўшыя кайданы расейскай няволі.

Што свайго ідэалу—Беларускае Народнае Рэспублікі — ім не ўдалося дасягнуць, ад гэтага ані не зьмяншаецца пашана да іх кожнага шчырага беларускага сэрца.

І пашана гэтая змушае мяне расказаць пра тое невялічкае, што перажывалася ў гістарычныя дні геройскай беларускай барацьбы далёка ад Семежава, Капыля і Вызны.

У Лодзі тады прабывалі „рэгулярныя“ Беларускія Вайсковыя Аддзелы, а таксама стаяўшая на чале іх Беларуская Вайсковая Камісія.

— Як-жа гэта? — можа паўстаць у чытача зусім зразумелае пытаньне,—пад Вызнай і Капылём ішла няроўная барацьба паўстанцаў-беларусаў з чырвонаю арміяй бальшавікоў, а Беларускія Вайсковыя Аддзелы ды яшчэ і „рэгулярныя“ стаялі сабе ў Лодзі?

Чаму гэта было так, неабходна коратка сказаць пра гэтыя „рэгулярныя“ аддзелы.

Дэкрэтам Начальніка Польскае Дзяржавы і Галоўнага Павадыра Польскае Арміі Язэпа Пілсудскага, у паразуменьні з патрыятычнымі коламі беларускага грамадзянства, прасьцей кажучы, з г. зв. беларускімі незалежнікамі—22 кастрычніка 1919 году ў Менску створана была Беларуская Вайсковая Камісія, паставіўшая сабе за мэту—фармаваньне нацыянальнага Беларускага Войска, дзеля барацьбы, побач з Польскаю Арміяй, проці чырвонага імпэрыялізму бальшавікоў.

Вярхоўнаю мэтаю Вайсковай Камісіі была Беларуская Народная Рэспубліка. Гэта відаць хоцьбы з духу адозваў Вайсковай Камісіі, выпушчаных да шырокага ведама, нажаль, ужо тады, калі Менск прышлося пакідаць, адступаючы на Захад.

Наступленьне бальшавікоў, як ведама, было спынена Польшчаю пад Варшавай і вядомы „цуд над Віслаю“ нанёс ім вялізарны разгром.

Новаю сядзібаю Вайсковае Камісіі і Беларускіх Вайсковых Аддзелаў польскае Галоўнае Камандаваньне вызначыла горад Лодзь.

Пачаткі першага беларускага батальёну пяхоты закладзены былі яшчэ ў Менску, ў Лодзі батальён гэты дакамплектоўваўся ахвотнікамі, калі стыхійна зарадзілася ў Слуцку таксама ідэя нашай антыбальшавіцкай збройнай барацьбы.

Пэрсанальны склад Вайсковае Камісіі ў Лодзі быў меншы і крыху іншы, як у Менску. Першы яе старшыня Аляксандар Прушынскі (поэт Алесь Гарун) з Менску выехаў хворым, у дарозе расхварэўся зусім і хутка памёр у шпіталі аж у Кракаве. У Лодзі старшынёю Вайсковай Камісіі быў капітан К., віцэ-старшынёю капітан Я. Гаспадарчаю часьцю Камісіі кіраваў сябар яе (цяпер таксама ўжо нябожчык) палкоўнік расейскае службы Якубоўскі. Сябрам Камісіі, бяз ніякай конкрэтнай функцыі, быў і польскі соцыялісты Эдмунд Якобіні, а таксама і „тутэйшы“ віленскі мешчанін Ф. У., які фармальна лічыўся кіраўніком Культурна-Прасьветнай і Рэгуляміноава-Школьнай (муштравой) падкамісіяў. Вайсковымі Аддзеламнашымі камандаваў майор Войскі Польскіх Тунгуз-Завісьляк; ён-жа быў і начальнікам штабу гэтых аддзелаў.

*Краўцоў Макар.*

(Працяг будзе).

году прыняць, дапусьцім, за нармальныя, за цэлыя 100%, дык пабачым, што леташнія цэны ў месяцы кастрычніку выносілі толькі 32.1%, а сёлетнія—39.1%. Як відаць, сёлета ў параўнаньні з леташнім годам цэны на збожжа падняліся толькі на 7%. Што-ж датычыць цэнаў на прамысловыя тавары, дык яны выносяць цяпер 64.9%. А знача, каб цэны на збожжа падраўняліся з цэнамі прамысловых тавараў у тым адносіньні, якое было ў 1928 г., трэба, каб яны яшчэ падняліся болей чым на 25%.

Як бачым, сёлетняя звыжка цэнаў на збожжа была вельмі далёкай ад той, якая патрэбна, каб селянін мог пазбыцца свае бяды і пачаць сваё „нармальнае“ гаспадарчае жыцьцё. Тымчасам варожая да земляробаў прэса і гэтую звыжку палічыла занадта высокай і з гэтага поваду падняла страшны гвалт, стараючыся даказаць, што да далейшай звыжкі цэнаў на прадукты першае патрэбы ніяк дапусьціць нельга, што, быццам, прынясе яна шкоду нават і інтарэсам Дзяржавы. *N.*

## Танныя навозы.

Высокія цэны мінэральных навозаў, нястача гною ў малых гаспадарках і грошаў на куплю насеньня лубіну ці сэрадэлі — змушаюць сялян шукаць новых танных навозаў. Усё болей і болей пачынаюць гаспадары ўжываць ігнараваныя дагэтуль сродкі, якія пры мінімальных грашавых затратах даюць добрыя рэзультаты. Маем на думцы мул, маргель і торф.

Мул можна атрымаць з сажалак ці ставоў, а таксама з глыбейшых равоў. Выбіраюць яго са дна і ўкладаюць у невялікія кучкі і пакідаюць яго ў іх праз цэлае лета і зіму. Вясной вывозіцца мул на поле ці агарод. Гнояцца імі перадусім пясчаныя грунты ад чаго ўраджай на іх павялічваецца ў некалькі разоў.

Маргель — гэта мешаніна гліны з вапнай, прычым працэнт апошняй можа хістацца ў даволі вялікіх граніцах. Пазнаць яго вельмі лёгка. Абліты саляной кісьляй пачынае, ў выніку хімічнага працэсу, сільна пеніцца—выдзяляецца вуглякіслы газ.

Дзякуючы гліне і вапне значна падносіцца клейкасьць пясчанога грунту, а таксама і ўраджай. Грунт цяжэйжы, гліністы лепш гнаіць пясчаным маргелям, бо чым большы будзе ў ім працэнт вапны, тым лепшы будзе на ім ураджай.

Торф зьяўляецца ўжо гноем у поўным значэньню гэтага слова. Торф—гэта рэшткі расьлінаў, якія адкладаліся не ў зямлі, а ў вадзе. Гэтыя рэшткі зьбіраліся вякамі і цяпер іх выкарыстаць можна на пясчаных грунтох.

Торф мае ў сабе ад 2% да 3% азоту, апрача таго робіць пясчаны грунт больш клейкім.

Торф сьвежа выкапаны не надаецца адразу на гной, бо мае ў сабе шмат квасаў, якія шкодна дзеюць на расьліны. Таму торф мусіць у кучах праляжаць лета і зіму, каб добра вывятрыўся і вясной толькі вывозіцца на поле.

*А. Б.*

## Францускі вучоны пра рэвалюцыйнае вар'яцтва.

У той час, як у Гішпаніі гуляе жах дамовае вайны, грамадзянства суседняе з ёю Францыі оптымістычна глядзіць на сваю будучыню, верачы, што ў Францыі немагчыма паўтарэньне гішпанскіх зьверстваў проста таму, што французы—гэта ня гішпанцы.

Ня згодны з падобным оптымізмам сваіх земляkоў вядомы францускі гісторык Люі Мадлэн, каторы на шпальтах газэты „Эко дэ Пары“ стараецца даказаць існаваньне запраўднага рэвалюцыйнага вар'яцтва масаў. Люі Мадлэн піша:

— Пэўна-ж, французы—ня гішпанцы, але французы - людзі і гэта адно павінна гаварыць пра небясьпеку. Гісторыя вучыць нас, што хатняе вайны ня бывае бяз зьверстваў.

Люі Мадлэн ня лічыць цяперашніх гішпанскіх зьверстваў атрыбутамі іменна толькі „клясавае“ вайны.

Карлісцкія войны пакінулі пасьля сябе страшэнны ўспамін. Паміж 1869 і 1873 г. г. ў Гішпаніі тварыліся агідныя забойствы: бывалі здарэньні, калі алькадаў (гарадзкіх вураднікаў) зьвязвалі і кідалі ў ванну з газаю, ў каторую салдат кідаў запалены сернік...

Гісторыя францускае рэвалюцыі перапоўнена трагічнымі мамэнтамі. Людзі напярэдадні рэвалюцыі бывалі няздольнымі забіць муху, пасьля яны рабіліся падпальшчыкамі ды катамі... Як відаць, смага крыві жыве ў чалавеку яшчэ з пячорных вякоў і прыклад забойства—заразьлівы. Дзень 14 ліпня 1789 году пачаўся надыхнёнаю прамоваю маладога Каміля Дэмулена, а закончыўся жэстам мясьніка, які патрэбаваў для сябе гонару адсячы гадаву ні ў чым невінаватаму Дэлёнэ, камэнданту Бастыліі. Яму пазволілі разрэзаць труп і мясьнік з задаволеньнем узяўся за справу, кажучы: „О, я дык умею патрашыць тушы“! Не падлягае сумляваньню, што гэты мясьнік напярэдадні ня быў забойцаю; але з Дэлёнэ ўжо лілася кроў, а пах крыві закручвае галаву.

Люі Мадлэн пераконаны, што існуе запраўднае *рэвалюцыйнае вар'яцтва*, вывучэньне якога адносіцца да галіны псыхіятрыі, а ня гісторыі. Гэтая колектыўная шалёнасьць у некалькі гадзін абяртае „народны энтузіязм“ у крывавую лазьню...

Стане таго, каб успомніць гэтак зван. рэлігійныя войны, ў часе якіх кожная старана бараніла як быццам веру айцоў. Ніколі яшчэ не тварылася гэтулькі праступленьняў, колькі якраз у часе гэтых войнаў: забойствы, гвалты, кашчунствы, садызм...

Люі Мадлэн радзіць французам падумаць пра ўсё гэта, а ня цешыцца з таго, што яны — ня гішпанцы.

— Чалавек,—піша далей вучоны, - гэта зьвер, пра якога казаў Золя, аддзелены ад руйнацкае шалёнасьці толькі сьцяною законаў, якія абараняюцца сілаю. У той дзень, калі парадак не знаходзіць сілы на сваю абарону, надыходзіць непарадак. А непарадак фатальным чынам пераходзіць у хатнюю вайну, бо „чалавек чалавеку — воўк“. Цяпер, у дадзеную мінуту, ў Францыі жыве вялізарны лік добрапарадачных людзей, каторыя і не падазраваюць, што яны могуць зрабіцца ўчасьнікамі крывавых непарадкаў. З здругога боку ёсьць людзі, каторыя цешаць сябе дарэмнаю надзеяй, што яны дык ахвярамі гэтых непарадкаў ня зробяцца...

Люі Мадлэн лічыць гэткую надзею дарэмнаю таму, што рэвалюцыйнае вар'яцтва небясьпечнае, галоўным чынам, сваёю сьлепатою. У раскелзанага натаўпу бываюць зусім невытлумачальныя капрызы, і тыя, хто раздуў пажар, ніколі ня могуць быць пэўнымі, што агонь не абернецца проці іх самых. Павадыр першага паўстаньня лёгка можа зрабіцца ахвяраю другога, ў крайнім выпадку трэцяга...

Калі Дантона вязьлі на шыбеніцу, дык ён напэўна пазнаваў сярод натаўпу ашалелых, бегшых за возам і лаяўшых яго, ўчасьнікаў верасьнёўскіх забойстваў, — тых самых забойстваў, каторыя ён, калі ня выклікаў, дык у кожным выпадку пакрыў...

## Што будзе праз сто гадоў або нават і раней?

Амэрыканскі прафэсар Тіндаль Франк заявіў, што ў працягу найбліжэйшага стагодзьдзя вучоныя павінны вырашыць гэткія проблемы:

1. Прадоўжаньне сярэдняга чалавечага веку да 100 гадоў.
2. Хуткае і радыкальнае вылечваньне ад раку, вэнэрычных хваробаў і артрыту
3. Поўнае спыненьне адчуваньня рознага болю.
4. Магчымасьць, у варунках поўнае бясьпекі, падарожнічаньня вакол сьвету ў працягу 24-х гадзін.
5. Перадача бяз дроту электрычнае энэргіі на ўсякую адлежнасьць, бяз ніякае страты энэргіі пры гэтым.
6. Выраб зусім дасканальных радыяпрыймальнікаў і радыяперадатчыкаў велічыні ня большай, як кішанёвы гадзіньнік.
7. Падарожа на Месяц машынаю да міжыплянэтнае камунікацыі.
8. Зьдзейсьненьне дасканальнага штучнага сонечнага асьвятленьня.
9. Хімічнае ад'жыўляньне.
10. Захаваньне жаночага харaства да глыбокае старасьці.
11. Зьдзейсьненьне рэльефнага і колернага фільму, які даваць будзе поўную ілюзію рэальнасьці.

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— Выйшлі з друку і прадаюцца ўва ўсіх беларускіх кнігарнях наступныя кніжкі:

1. Поэма Міхаса Машары--„Мамчына Горка“, цана 50 гр.
2. Адама Станкевіча—„З жыцьця і дзейнасьці Казімера Сваяка“, цана 50 гр. (лацінкай).
3. Фарс у адным акце Руткоўскага—„Забойства ў доме № 37“, цана 30 гр. (лацінкай).
4. Сцэнічны калядны абразок у адным акце Васільчэнкі—„Зыля-Каралевіч“, цана 45 гр. (лацінкай).
5. Водэвіль у адным акце Н. Краснова-„Сучасныя маладажоны“, цана 25 гр.
6. Камэдыя ў адным акце Валакаса—„Тры дактары на адну плямку“, цана 45 гр.
7. Беларускі сьпеўнік „Баба Еўка, дзед Тамаш“, цана 25 гр. (лацінкай).
8. Беларускі сьпеўнік „Лявоніха“ і іншыя беларускія народныя песьні, цана 20 гр. (лацінкай).
9. Сьпеўнік найцікаўшых беларускіх песьняў, цана 25 гр. (лацінкай).
10. Беларускі сьпеўнік „Чаму-ж нам ня пець“, цана 25 гр. (лацінкай).
11. Беларускі адрыўны календар на 1937 год (кірыліцай і лацінкай), стары і новы стыль, каталіцкія і праваслаўныя сьвяты, цана 50 гр. Хто выпісвае календары ў большым ліку атрымлівае скідку.

— Выйшаў з друку юбілейны нумар „Сьветача Беларусі“, орган Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага К-ту. Цана 50 гр.

— 24 лістапада адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 5-х угодаў працы Цэнтр. Бел. Прав. К-ту.

Угодкі гэтыя былі злучаны з 75 угодкамі старшыні К-ту гр. Т. Вернікоўскага. У сьвяткаваньні прыймалі ўдзел прадстаўнікі беларускага, расейскага і польскага грамадзянстваў, а таксама прадстаўнікі праваслаўнага і каталіцкага духавенства.

— У панядзелак, 30 лістапада г. г., а 21 гадз. 30 мін. выступіць у Віленскім Радыё беларускі хор пад кіраўніцтвам гр. Г. Шырмы.

## На гішпанскім фронце.

Апошнім днямі над Мадрыдам ідуць вялікія дажджы. Цяжкія бомбавозы ня могуць падымацца з размытых аэродромаў і таму не магчыма рабіць паветраныя атакі.

Затое артылерыя мае шмат працы. Абарона Мадрыду вядзецца вельмі ўпорна з боку ўрадовых войскаў. Кожны дом, які знаходзіцца ў раёне наступленьня нацыяналістаў, заменены ў крэпасьць. Нацыяналісты змушаны штурмаваць кожны дом асобна і дзеля гэтага створаны спэцыяльныя ўдарныя батальёны з мараканскіх часьцяў. Гэтыя ўдарныя батальёны, вааружоныя галоўным чынам ручнымі гранатамі, пасоўваюцца на перад пад прыкрыцьцем танкаў і бранявых аўтамабіляў. Пры помачы ручных гранатаў мараканцы выбіваюць абаронцаў Мадрыду з першага паверху, а потым страляюць праз столь, заганяюць іх усе вышэй і вышэй і барацьба звычайна канчаецца на страсе. Зусім зразумела, што пры такой барацьбе страты вельмі вялікія як у адных так і ў другіх. Ясна, пры такой абароннай сыстэме паўстанцы Мадрыд хіба возьмуць толькі тады, калі яго зусім разбураць.

Ходзяць нават чуткі, што паўстанцы хочаць пакінуць занятыя імі пазыцыі ў Мадрыдзе і перайсьці да другой тактыкі, якая-б палягала на акружэньні Мадрыду з усіх бакоў і ізаляваньня яго ад усяго сьвету.

### Новыя сутычкі на манджурска - савецкай граніцы.

З Токіо паведамляюць, што на ўсходняй савецка-манджурскай граніцы, ў 42 кілём. на поўнач ад станцыі Пагранічная, адбыліся сутычкі між савецкімі і японскімі атрадамі, з каторых кожны складаўся з 40 чалавек.

## З усяго сьвету.

— *У Ар'ежэ* (*на паўдні Францыі*) абвесьцілі забастоўку 12.000 рабочых—тэкстыльшчыкаў у знак пратэсту проці звальненьня аднаго з рабочых.

— *У Шанхае* паўстала забастоўка на японскіх тэкстыльных фабрыках. Сярод студэнства і навуковых кругоў заўважваецца рост сымпатыяў да бастуючых. У цэлым радзе ўнівэрсытэтаў за апошнія дні адбыліся шматлікія мітынгі студэнтаў. На мітынгах абгаварываліся мерапрыемствы дзеля падтрыманьня бастуючых.

— *Юбілей Круппа.* Ведамая круппаўская фірма сьвяткуе ў гэтым годзе 125 угодкі свайго існаваньня. У 1826 годзе фірма мела ўсяго 4 рабочых, у 1914 годзе — 81.500, а ў бягучым годзе—91.500.

— *Мосьлей*, правадыр ангельскіх фашыстаў заявіў, што Англія павінна вярнуць Нямеччыне яе былыя калёніі.

— *Антыкамуністычная ліга.* У Вене пачаўся зьезд міжнароднай антыкамуністычнай лігі. Зьехаліся дэлегаты з Нямеччыны, Вэнгрыі, Югаславіі і іншых дзяржаваў.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: М. ШЧАСТНЫ. · Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.